Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару **25** грошай.

№ 31—(71). Вільня, 10 кастрычніка 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ


| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |


## Апамятайцеся!

Каб здабыць пашану ў людзей, трэба насамперш мець пашану да самаго сябе. Людзі, якія сябе не шануюць, пашаны і послуху з боку іншых людзей не здабудуць ніколі.

Гэтай праўды нажаль ня ведаець аграмадная большасьць дзеячоў адраджэнскага беларускага руху, на каторых выпала доля пхаць гэны цяжкі беларускі воз.

Даволі паверхоўнага агляду нашае прэсы, каб праканацца, што гэта так. Лаянкі, асабістыя выпады, мяшаньне з балотам усяго і ўсіх што толькі не належыць да крамкі рэпрэзэнтаванай той, ці іншай газэцінай, звычайнае зьявішча ў нашым беларускім жыцьці.

Ачарніўшы і апаганіўшы ў вачох шырокіх масаў усё, што выбіваецца на паверх беларускага народу, прычапіўшы яму этыкеткі прадажніцтва, шпіонства, не пакінуўшы ніводнай сухой ніткі на сваім целе, гэтыя дзеячы ня толькі страцілі пашану ў чужынцаў і сярод свайго грамадзянства, але апаганілі і самую беларускую ідэю ў вачах сярмяжнай Беларусі. Дзякуючы гэтай страшнай хваробе двух-трох мільённая беларуская маса нашае зямлі здэзар'ентавана, разьбіта на гурткі і гурточкі, нават не на гурточкі, а на дробныя пылінкі, пазбаўленыя ўсялякага цэмэнту.

Ня дзіва, што пры гэткіх умовах варожая беларускаму адраджэнчэскаму руху прэса з нейкай асалодай, з нейкай іранічнай усьмешкай робячы на падставе гэтых лаянак і ўзаемнай грызьні характэрыстыку беларускага грамадзкага і палітычнага жыцьця, прыходзіць да вываду, што ўвесь адраджэнскі беларускі рух гэта адзін—шантаж.

Людзі, апамятайцеся!

Даволі лаянак, даволі ўзаемнага зьневажаньня і ачэрніваньня. Вялікі час знайсьці лякарства на гэтую цяжкую хваробу, якая, быццам чорная змора, вісіць над нашым жыцьцём і цяжкім каменем лягла на шляху арганізацыі беларускіх мас.

Беларуская прэса павінна перамяніць свой тон, павінна служыць спробе арганізацыі беларускага грамадзянства, а не распыленьню яго. Усё, што ёсьць жывое і творчае ў беларускім народзе, павінна шукаць шляхоў да супольнай працы, да концэнтрацыі ўсіх сіл беларускага народу.

Тэмай дыскусыяў і спрэчак на старонках беларускіх часопісаў адгэтуль павінна быць ня крытыка маральных кваліфікацыяў паасобных адзінак, а пэўных думак, пэўных ідэй, і спосабаў іх рэалізацыі. Няхай словы здраднік, дэфэнзыўшчык, прадажнік—зьнікнуць з лексікону беларускае прэсы, бо сапраўды, больш гора і цемнаты ў беларускім народзе, чым здрадніцтва.

## Плёткі Дыктатара.

Як ведама, адносіны паміж Польшчай і Літвой не належаць да найлепшых. Урад Літоўскага дыктатара Вальдэмараса, не гледзячы на пастанову Лігі Нацыяў і добрую волю Польскага Ураду, ня хоча нават навязаць нармальных зносін з Польшчай, паўтараючы адно: Пакуль Польшча старадаўнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага Вільні ня аддасьць Літве, ніякіх зносін, ніякай згоды паміж Польшчай і Літвою быць ня можа. Вось Літоўскі Урад і стараецца ўсялякім спосабам шкодзіць Польшчы. Паміж іншым Урад літоўскі распускае весткі, што Польшча рыхтуецца аружнай сілай далучыць Літву да Польшчы.

Ведама, гэткім весткам мала даюць веры іншыя дзяржавы, ведаючы добра, што аб ніякай вайне Польша ня думае. Вось каб прыдаць гэтым весткам характэр сапраўдных, нядаўна літоўскія газэты выдрукавалі рэвэляцыйную заяву нейкага Аляксандра Пяткевіча, які быццам зьяўляецца ўцёкшым з Польшчы ў Літву маёрам Гэнэральнага Польскага Штабу.

У гэтай заяве А. Пяткевіч кажа, што нядаўна была нейкая нарада ў справе заняцьця Палякамі Коўны і што быццам ёсьць ужо выбраны тымчасовы Літоўскі Урад, на чале каторага стаіць начальнік аддзела публічнай бяспэчнасьці Віленскага Ваяводзтва—Кіртікліс. Колькі праўды ў гэтых заявах Аляксандра Пяткевіча і кім сапраўды ёсьць, гэты „майор Гэнаральнага Штабу“ —найлепш відаць з таго, што піша аб ім газэта „Kurjer Wileński“.

„Злажыўшы рэвэляцыі ў Коўне, Аляксандр Пяткевіч, які з крыміналіста абярнуўся ў Коўні на маёра Гэнэральнага Штабу і афіцэра II аддзелу, гэта тып, часта спатыканы па вайне, які ўвабраў у сабе найгоршыя рысы жыцьця. Прыехаў ён у Польшчу ў 1924 г. з Савецкай Расеі, у Вільні трапіў у сэкрэтар‘ят партыі „Wyzwolenia“, дзе служыў сторажам. Праца гэта аднак ня добра аплачвалася, Пяткевіч кідае яе і пераносіцца ў Дзятлава, як дробны чыноўнік гміны. Нахіл да какаіны і морфія, ды няўсідчывы характар не дазваляюць яму там доўга застацца і за розныя надужываньні яго адтуль выкідаюць. Тады зьяўляецца ізноў у Вільні. Тут уваходзіць у кантакт з быўшым паслом Шапелем, якому піша—за адпаведную плату — адозвы да сялян. Штодня госьці Чырвонага Штраля спатыкалі тады сьмяшную, нэрвовую, адзетую ў нейкі кажушок фігуру, каторая махаючы рукамі направа і налева, каму папала, расказвала дзівосы аб сваіх гэройскіх перажываньнях у Расеі. Чаго толькі ў гэтых апавяданьнях ня было? І ўкраў ён з едучага аўтамабіля шэфа Гэнэральнага Штабу савецкае арміі, і забіў ён нейкага грознага камісара Чэразвычайкі, а потым пераадзеўся ў яго мундзір, што дало яму магчымасьць даўжэйшы час прабываць у Г. П. У. ў Маскве. Ясна, усе гэтыя дзівосныя гісторыі маёр Гэнэральнага Штабу Пяткевіч расказваў пад дзеяньнем большай або меншай дозы наркотыкаў. У такім стане Пяткевіч гуляў колькі разоў у Вільні ролю сышчыка. Выбраў сабе на вакзале нейкую Богу духа вінаватую ахвяру і ішоў за ёю крок у крок пільнуючы яе. На жаданьне „пільнаванага“ „сышчык“ апынуўся ў камісарыяце паліцыі, дзе аднак задаволіліся толькі сьцверджаньнем, што маюць дачыненьня з ненармальным зусім чалавекам. У канцы не хапіла яму грошаў на какаіну і морфіну. Апынуўся ў такім стане, што, каб задаволіць сваю смагу наркотыкаў, узяўся падрабляць розныя паперы, вэкслі і г. д. У канцы маючы дзьве дарогі: уцякаць, або ісьці ў турму, выбраў першую. Выбар быў добры, у працягу месяца Пяткевіч зрабіў аграмадную кар‘еру: з звычайнага злодзея трапіў у маёры Гэнэральнага Штабу“.

---

## Успаміны з Пэрсыі.

(Гл. № 30 „Б. Д.“).

Адным з найцікавейшых гарадоў, якія мне давялося бачыць у Пэрсыі, гэта горад Кум. Цікавы ён для мяне быў з таго боку, што гэта чыста пэрсыдзкі горад, у якім вы ня ўбачыце ніякай мешаніны Еўрапэйскай культуры, спатыканай у Рэшце, Казьвіне, Тэгэране і нават у Хамадане, ляжачых на вялікіх гандлёвых шляхох, праз якія разам з таварамі заносіцца і эўрапэйскі пах у гэтыя гарады.

Шлях да Куму вядзе праз Казьвін і Тэгеран, а адтуль па пустынных прасторах, на каторых толькі дзе-не-дзе спаткаць можна жылыя аседлішчы людзей.

Як вокам кінуць, нідзе ні дрэўка, ні куста, усюды толькі шэрая, спаленая сонцам раўніна, на якой дзе-не-дзе стырчаць бадылі нейкай расьліны, пажаўцеўшай, засохшай, уміраючай з браку вады. Асабліваe ўражаньне на гэтай пустыні робіць ляжачае недалёка ад шляху на Кум—возера.

Як песьціць здалёка яно вока вандроўца, змучанага гарачыней і жудасным выглядам пустыні, над каторай быццам лётае анёл сьмерці! Здаецца пры ім, пры гэтым возеры, павінен пачынацца новы край, краіна жыцьця. Але прыехаўшы бліжэй да возера, вы бачыце, што тая самая вада, каторая ўва ўсіх іншых мясцох Пэрсыі зьяўляецца крыніцай буйнага жыцьця — тутака быццам страціла сваю чароўную моц. Возера быццам люстра ляжыць у раме шэрых, спаленых слонкам берагоў.

Нідзе ні званьня жыцьця, вецяр ня моршчыць твару яго, плеск рыбкі не расходзіцца срэбнымі коламі па ім; на берагох ані сьледу якіх небудзь расьлін, нават сухіх бадылёў ня відаць.

Гэта возера ўмёршае, гэта возера, якое ня толькі ня творыць жыцьця, але забівае яго — гэта возера салёнае. Соль выступае на берагох яго бруднымі бела-шэрымі плямамі. У насычанай соляй вадзе ня могуць жыць, ні рыбы, ні расьліны, якімі гэтак багаты нашыя вазёры.

Падарожа тут вельмі трудная і цяжкая.

Сухое, дыхаючае полымям паветра гэтай пустыні вельмі празрыстае, так што ацаніць вокам адлежнасьць проста немагчыма, без вялікай абмылкі. Гэнае салёнае возера, калі я мінуўшы перавал ўбачыў яго першы раз у нізіне, здалося мне зусім недалёкім. Ацэньваючы вокам адлежнасьць, я-бы сказаў, што да яго вярсты дзьве-

# Роля сялянства ў беларускім руху.

Часта можна пачуць ад мала ар'ентуючагася ў беларускім руху чалавека, што беларускі рух, якім ён ёсьць сягоньня, апіраецца амаль вылучна толькі на нялічнай інтэлігенцыі, а сялянства сваей масаю зусім не свядомае, а калі і бываюць розныя праявы народнае працы, дык гэта ня што іншае, як хвілёвы вынік вонкавых уплываў і незадаваленьне з сучаснага існуючага ладу. Досыць даць для беларускага селяніна дагодныя варункі матар'яльныя, — не адзін так гаворыць сяньня—а адразу ён забудзецца аб сваей нацыянальнай прыналежнасьці і згодзіцца з накіненымі ўмовамі жыцьця.

Падобнае разуменьне, калі належна ўнікнуць у псыхіку беларускага сялянства і цалком зразумець яго імкненьні, акажацца нязгодным з запраўднасьцю.

Беларускае сялянства праз доўгія вякі пры паніжэньні і цемры загубіла сваю нацыянальную сьвядомасьць у сяньняшнім разуменьні гэтага слова, аднак захавала беларускую душу і ўсе яе асаблівасьці, захавала сваё нацыянальнае аблічча, якім была родная мова.

Гэтыя нацыянальныя вартасьці народу захаваліся, хоць у падсьвядомасьці сялянства і ўсьцераглі яго ад канчальнай дэнацыяналізацыі, а з прыходам магчымых варункаў адраджэньня, пачалі разьвівацца і прыбіраць вонкавыя формы.

Такім чынам расло, тварылася падсьвядомае, нявыразнае спачатку, сваё нацыянальнае пачуцьцё ў глыбіні народных масаў, і згодна з натуральнымі законамі кожнае нацыі пачало выяўляць няўстрыманае імкненьне да асягненьня тых ідэалаў, якія ляжаць у аснове кожнае здаровае нацыі—*да ўсестаронняга адраджэньня.*

Адраджэньне Беларусі ёсьць такім чынам адраджэньнем масы, адраджэньнем сялянства, абапёртым на нацыянальна-соцыяльным грунце. Беларускае сялянства, такім чынам, захавала ў сваім духовым жыцьці вялікі запас нацыянальнага пачуцьця і імкненьне выліць яго ў вонкавыя формы.

З прычыны браку належнае асьветы і кніжнага разьвіцьця, валікая часьць сялянства не разумее, не ўяўляе сабе выразна народных імкненьняў, аднак, што характэрна, самі не застаюцца пасыўнымі ў агульна-народным руху, а інстынктоўнаю сілаю ідуць наперад тымі каляінамі, якімі вядзе іх глыбока скрытае, мо' падсьвядомае для іх, нацыянальнае пачуцьцё.

Доказам гэтага ёсьць шыбкасьць адраджэнскае працы, якая праз так кароткі, адносна час, прыбрала такі шырокі размах; доказам гэтага ёсьць шырокае й памыснае разьвіцьцё беларускае культуры і літэратуры, уласьцівае рэдка якім народам; доказам гэтага, ўрэшце, ёсьць сяньняшні беларускі рух, прыбраўшы хвормы глыбока-нацыянальнага ўсенароднага руху, які апіраецца вылучна на шырокіх сялянскіх масах.

Беларускае сялянства ў сяньняшні мамэнт прадстаўляе сабой вагромністую жыцьцёвую сілу, асноваю якой, ёсьць глыбока нацыянальны падклад душы народу.

Праўда, прыходзіцца згадзіцца, што некатарая, мо' паважная частка сялянства збочваець з чыста нацыянальнай дарогі, але з другога боку сялянства зьяўляецца мала разьвітае, каб магло адразу процістаўіцца забайчым вонкавым уплывам, тым больш, што гэтыя ўплывы маюць толькі тады пасьпех, калі бываюць у беларускай нацыянальнай ахварбоўцы. Значыцца, такім чынам, усходнія ўплывы з мэтаю адцягнуць беларускае сялянства ад супольнае нацыянальнае працы, карыстаюцца толькі несьвядомасьцю сялянскіх масаў, якія бязкрытычна прыймаюць усё тое, што для іх ёсьць беларускім, ня зходзячы ў істоту самае справы. Але кожнаму ведама, што ўсё накінутае павярхоўна з прычыны несьвядомасьці

---

тры, ня болей. Тымчасам тады было яно ад мяне на адлегласьці каля 15 кілёмэтраў.

З жывых істотаў, якія мне давялося спаткаць на гэтай пустыні — гэта яшчаркі аграмаднай вялічыні і скарпіёны.

Ня можна сказаць, каб абодва гэныя прадстаўнікі царства жывёлаў былі вельмі прыемнымі, асабліва скарпіён. Гэта невялічкі зьвярук, з выгляду вельмі падобны да малога рака, і клюшні мае як у рака, толькі меншыя і шэсьць ног і галоўку падобную да яго, і з колеру падобны да рака, і хвост такі самы, толькі закручаны ня ўніз, а ўгару. На канцы хваста знаходзіцца быццам капцюр — гэта джала скарпіёна.

Бегае ён шыбка, трымаючы хвост падняты ўгару. Калі хоча джаліць, закідае яго яшчэ вышай, так што капцюр, насаджаны амаль на самым канцы хваста, сягае галавы, — і з размаху бье гэтым капцюром у сваю ахвяру.

Скарпіён вельмі ядавіты, чалавек ўджаляны ім цяжка хварэе, а іншы раз і ўмірае. Ня гледзячы на гэта жаўнеры злавілі двох жывых скарпіёнаў, па просьбе дохтара нашае каманды, які хацеў праканацца ў праўдзівасьці вычытанага недзе ім апавяданьня, быццам скарпіён, папаўшы ў гэткія варункі, што яму няма куды дзецца — сам забівае сябе. Гэткую спробу зрабілі мае жаўнеры, прыехаўшы ў Кум. На падлогу вузенькай палоскай у постаці кола налілі бэнзыны, запалілі яе і кінулі туды скарпіёна.

Той кінуўся ў адзін бок, потым у другі і спаткаўшы усюды агонь, выбяжаў на сярэдзіну кола і ўджаліўшы сябе ў галаву—забіўся адразу.

Скарпіёна вельмі часта спаткаць можна ў Пэрсыі ўсюды, у сухіх і скалістых мейсцах яе. Дзе іх шмат, яны іншы раз запаўзаюць і ў хаты, так што кладучыся спаць ня шкодзіць аглядзець куты хаты, ці няма часам гэтага нямілага госьця.

Яшчаркі, якія мне давялося там бачыць, ня шкодзяць чалавеку, але-ж вельмі пагана выглядаюць. Галоўку яны маюць падобную да нашых яшчарак, за тое ногі ў іх вышэйшыя чым ў нашых, хвост трошкі карацейшы і самое цела значна шырэйшае і больш падобнае да корпусу нашых рапухаў, бо й бруха яшчаркі маюць вялікае. Колеру яны тут бываюць рознага, залежна ад колеру скалаў і зямлі таго мейсца, у якім жывуць.

Можна спаткаць яшчаркі шэрыя, зялёныя, бурыя, жоўтыя. За тое вялічынёй яны вельмі розьняцца ад нашых яшчарак. Здаецца што ня будзе брахнёй, калі скажу, што яшчаркі даходзяць да паловы мэтра даўжыні разам з хвастом.

масы, зьяўляецца нятрывалым: без ніякіх результатаў.

Выходзячы з гэтага трэба прызнаць, што беларускае сялянства, паміма ўсіх вынікаючых з яго несьвядомасьці адхіленьняў ад праўдзівае мэты, становіць здаровую, чыста беларускую масу, на якой апіраецца ўвесь нацыянальны арганізм беларускага народу.

Гэтае сваё становішча сялянства апраўдала ў ваўсім гістарычным бегу грамадзкага жыцьця, а нат' і ў тыя крытычныя цяжкія часы, калі было пазбаўлена цалком чалавечых правоў, калі свая інтэлігэнцыя здрадзіла народныя гушчы і перайшла ў чужыя лагеры, сялянскія масы засталіся вернымі сваей старонцы. Сягоньня таксама, калі хваля беларускага адраджэньня прыняла даволі шырокія разьмеры, — сялянства ў гэтым іграець адну з перадавых роляў. З другога аднак боку, ў сяньняшні момант, калі беларускія перадавыя колы пабіліся на дробныя ўзаемна варожыя партыі і збачылі такім чынам з агульна-нацыянальнай дарогі,—на сялянства ўплыло гэта адносна ў малой меры, а калі гдзе і прыняло вастрэйшыя хвормы, то тлумачыцца гэта ня чым іншым, як бракам сьведамасьці і ўсестароньняе ар'ентацыі ў палітычным жыцьці.

*Альфа.*

# Трэба падбаць самым.

У № 17 „Народу" знаходзім вельмі характэрную адозву „Да Беларусаў Каморнікаў", у каторай Гародзькаўцы заклікаюць якога небудзь каморніка, каб задарма зрабіў камасацыю іх вёскі.

Ня ведаем, ад імя каго выдана гэтая адозва, бо подпісу пад ёй няма ніякога. Але яна вельмі характэрна з таго боку, што на шляху філянтропіі шукае развязкі вельмі важнага пытаньня.

На сам перш некалькі словаў аб філантропіі. Права да яе маюць людзі бедныя, нешчасьлівыя, якія сваімі ўласнымі сіламі ня могуць памагчы свайму гору.

Маюць права да яе калекі, старыя, малыя. Ці-ж сапраўды гарадзькаўская вёска складаецца толькі з такіх нешчасьлівых людзей?

Думаем, што не!

А калі не, то што пхнула гародзькаўцаў да шуканьня „дармовага" каморніка? Адказ напрашваецца сам сабою. Нейкая дзіцячая вера, што ёсьць недзе „пан", які прыдзе і наладзіць іх жыцьцё. І зробіць гэта „за дарма", без усялякіх з іх боку высілкаў, толькі за падзяку і за добрую памятку аб сабе ў сэрцах Гародзькаўскіх сялян. Гэтая вера ў нейкага „пана", нейкага „дабрадзея", які можа прыйсьці і наладзіць жыцьцё, вось што зьяўляецца вельмі характэрным у гэтай адозве і што наводзіць сум, чытаючы яе.

Вялікі час ведаць сялянству, што іх сялянская доля ляжыць толькі ў іх уласных руках і дабіцца лепшага яны могуць толькі сваімі сіламі, сваей працай. Ідэйныя людзі могуць толькі памагчы сялянству ў гэтым, але рабіць за яго ня могуць. І дрэнна зрабіла рэдакцыя „Народу", што, памешчаючы гэнную характэрную адозву, ня выявіла гэнай праўды Гародзькаўцам.

# Перасьцярога для эміграптаў.

Ад б. эміграпта, які вярнуўся з Канады, праехаўшы туды цераз Кубу і Амэрыку, даведваемся аб няшчасным лёсе эміграптаў, якія выяжджаюць у Кубу, спадзяючыся адтуль прабрацца ў Амэрыку.

Паводле Амэрыканскага эміграцыйнага закону ў Амэрыку могуць уехаць тольк тыя, якім амэрыканскі консул у Варшаве дасьць права на ўезд, ці гэтак званую візу. Апрача таго, амэрыканскі закон устанаўляе на кожны год пэўны лік

---

Пад'яжджаючы да Куму характар мейсца зьмяняецца. Недалёка ад гораду, на адлежнасьці твох-трох кілёмэтраў працякае быстрая горная рэчка ў стромкіх берегах, пакрытых некім блiскучым шэрым налётам.

На берэзе гэтай рэчкі я ўбачыў стада вялікіх шэрых птушак, якія, стоячы на берэзе на доўгіх нагах, крывымі дзюбамі сваімі чагосьці шукалі ў скаламучанай быстрым токам вадзе. Я прыцэліўся з дубэльткі і выстраліў. Адна птушка захісталася і ўпала. Іншыя аглядзеліся і паволі ўзьняліся і адляцелі. Жаўнер, які кінуўся даставаць птушку, ступіў нагою ў раку, адразу заграз вышэй каленяў. Дно ракі тварыла некае ліпкае балота, так што бяз помачы людзей, ня ведаю, ці выбраўся-б з яго. І балота гэта пачыналася адразу, раптоўна на мяжы таго мейсца, дзе зусім канчаўся цьвёрды і сухі бераг ракі і пачыналася вада.

Выцягнуўшы з балота жаўнера, дасталі пасьля і застрэляную птушку. Вялічыні яна была як нашая чапля, толькі даўжэйшую мела шыю і дзюб тоўсты, моцны, закручаны. Колер пёраў яе — шэры з рожавым адлівам, а зыспаду крыльля маюць зусім рожавы колер.

Пачынала ўжо вечарэць, калі мы пад'ехалі да Куму. У змроку вечара на фоне цёмна-сіняга неба зарысаваліся контуры мэчэтаў, (магамэтанская царква) гэтага, як я дазнаўся, сьвятога для Пэрсаў гораду. Ёсьць у гэтым горадзе некая сьвятыня, зьвязаная з жыцьцём найвялікшага іхняга прарока — Магамэта, да каторай з усіх канцоў Пэрсыі цягнуцца пілігрымы, каб малітвамі ў гэтай сьвятыні заслужыць на рай.

Недалёка ад Куму ёсьць пустынны ўзгорак, увесь закіданы невялічкімі каменьнямі. Гэта пілігрымы праходзячы ў Кум, кідаюць там гэтыя каменьні. Каменьні гэтыя, цэлымі кучамі ляжаць па ўзгорку, ляжаць сотні вякоў, лік іх расьце з кожным годам.

Колькі іх там гэтых каменьняў, якія малітвы і надзеі зьвязвалі з імі людзі, нясучы іх сюды з далёкіх краін, каб кінуць іх на гэны пустынны ўзгорак? Шмат, шмат маглі-б разказаць яны, каб маглі гаварыць.

(*Працяг будзе*).

эмігрантаў з кожнага краю, і толькі такі лік эмігрантаў можа ўехаць у Амэрыку.

Амэрыканскія ўлады вельмі зорка сочаць за тым, каб ніхто без дазволу не праехаў у „край даляраў“ і караюць за ўезд без дозволу.

Недалёка Амэрыкі ёсьць краіна Куба. У Кубу ўезд дазваляецца без усялякіх агранічэньняў і туды едзе шмат людзей з Беларусі. Людзям гэтым здаецца, што адтуль здоляюць праехаць у Амэрыку, якая знаходзіцца недалёка ад Кубы.

На Кубе няма разьвітога промыслу, а там зьбіраюцца сотні тысячаў эмігрантаў, якія думаюць прабрацца ў Амэрыку. І вось дзеля гэтага на Кубе вялікае безработоцьце. Працы там няма ды плацяць за яе вельмі мала. А тымчасам жыцьцё там дарагое і страшэнная гарачыня да якое няпрывычны нашыя сяляне. Ад усяго гэтага ўміраюць яны там ад голаду і хваробаў. Пераезд з Кубы ў Амэрыку трывае нядоўга, толькі Амэрыка гэтак сама, як і з Польшчы ня ўсіх пушчае да сябе з Кубы. А пераехаць хочуць усе, бо ў Амэрыцы яны могуць знайсьці работу і хлеб.

Гэтую ахвоту няшчасных людзей выкарыстоўваюць агенты, якіх на Кубе тысячы і гэтыя агенты за пэўную аплату ад 50 да 200 даляраў бяруцца перавезьці эмігранта з Кубы ў Злучаныя Штаты.

Ахвотнікаў на пераезд многа. Але мала хто даяжджае ў Амэрыку, а проста гіне дзеля абману з боку агента.

Пасадзіўшы такіх бязбілетных і беспашпартных эмігрантаў на параход, агенты адбіраюць у іх аплату за „перавоз“ у Амэрыку, а вывезшы на мора, абдзяраюць з усяе маемасьці і выкідаюць ў мора. Гэтак бывае.

Або, забраўшы ўмоўленую аплату за перавоз, высаджваюць няшчасных эмігрантаў на выспы, якія знаходзяцца недалёка Кубы і заяўляюць быццам гэта ўжо Амэрыка. Востравы гэтыя зусім дзікія, пазбаўленыя прэснае вады і нікім не заселеныя. Высаджаныя там эмігранты гінуць ад голаду.

Калі-ж трапляецца сумленны агент, дык так сама мала карысьці для эмігранта ад пераезду ў Амэрыку, бо там ён заўсёды будзе злоўлены і пасаджаны ў турму за пераход граніцы без дазволу. Такога беспашпартнага эмігранта ніхто ня прыме на кватэру, нідзе ён не дастане работы і гэтак сама чакае яго голад і сьмерць.

*Дык асьцярожна з выездам у Кубу.*

*С.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Культура лёну (Linum usitatissimum).

Лён зьяўляецца аднэй з найстарэйшых культурных расьлінаў, бо льнянае палатно ня раз знаходзілі на егіпецкіх „муміях“, якія, як ведама, паходзяць яшчэ з часаў фараонаў. У сярэднія вякі, калі яшчэ ня ведалі хлапку (ваты), і машынаў дзеля вырабу яго, лён і работа каля яго цаніліся так высока, што навет самыя знатныя жанчыны займаліся пражаю і ткацтвам льняных матар'ялаў. Бацькаўшчынаю лёну лічаць Заходнюю Азію, скуль ён разышоўся па ўсей Эўропе. Лён разводзяць дзеля двух мэтаў: дзеля атрыманьня з яго доўгіх і моцных валокнаў, або пражы, і дзеля атрыманьня з маслістага насеньня лёну тлушчу, або „алею“, якога насеньне лёну часта мае ў сабе 30—37%.

Самая прадукцыя лёну заўсёды праводзіцца ў трох кірунках: а) дзеля атрыманьня толькі валакна (пражы); б) або дзеля атрыманьня зярнят і в) што часьцей ўсяго бывае — дзеля атрыманьня валакна і зярнят.

Пры гэтым трэба заўважыць, што на поўначы Эўропы, напр. у Расеі. культура льну праводзіцца толькі дзеля валакна; за тое на поўдні, нпр. — Украіна — сеецца лён-кудраш дзеля зярнят. У нас лён сеецца дзеля абедзьвіх мэтаў.

Дзеля таго, каб мець добрае льнянае валакно, трэба разводзіць лён з доўгімі бадылямі, (льняною саломаю), на якой не павінна быць замнога лісьцьця. Чым даўжэйшы лён, або валакно, тым даражэй за яго плаціцца: даволі сказаць, што валакно, якое мае больш 70 цэнтым. або 1 мэтр даўжыні, заўсёды каштуе ў два-тры разы даражэй, асабліва ў Англіі, сяньня часта да 4-$4^1/_2$ злот. за кілёграм.

Павінна быць усім ведама, што *найлепшы лён і найбольш яго атрымліваецца з моцных грунтаў — з навін, залежаў і канюшынішчаў.*

Лён найлепш удаецца там, дзе лета, хоць кароткае, але ня надта гарачае і сухое, у меру вільготнае, словам, кліматычные варункі гэтакія, як у нас, на Беларусі. Што датычыцца вымаганьня ад грунтаў, то лён пры добрай апрацоўцы вямлі і адпаведным угнаеньні, можа ўдавацца ўсюды, толькі *не пераносіць занадта блізкае падземнае вады, не заўсёды ўдаецца на цяжкіх глiністых грунтах, ня любіць сыпучых пяскоў і ня варта лёну сеяць на землях ваппістых, бо тады ён дае валакно занадта крухкае (ня моцнае).*

Самымі адпаведнымі грунтамі для лёну лічацца грунты *сугліністыя і супясчаныя.* Лён можа добра радзіць пасьля жыта, аўса, на бульбішчы, а асабліва добра ўдаецца *на канюшынішчы і на навінах.* Пасьля ячменю, роўна-ж, як і ячмень пасьля лёну, ніколі не дае добрых ураджаяў. Сам па сабе лён таксама ня любіць расьці, і яго трэба сеяць не раней, як праз 5-9 гадоў на тым самым мейсцы. На льнянішчы добра расьце усялякае збожа, памінаючы, як мы ўжо казалі, ячмень. Асабліва часамі добра ўдаецца пасьля лёну пшаніца, але ўсе стручковыя (гарохі, лубін і бульба), на льнянішчы даволі часта ня родзяць, ня гледаючы нават на добрае ўгнаеньне.

Дзеля пасеваў лёну найлепшымі мейсцамі будуць грунты, закрытыя ад сухіх і марозных ветраў, блізка лясоў, або за пьігоркамі; не надаюцца пад пасевы лёну мейсцы высокія, таксама як і нізкія. Лён любіць, каб было даволі вільгаці, асабліва з пачатку росту, але не за многа, і зусім ніколі не зносіць доўгае сушы.

З вышэйсказанага можна заўважыць, што лён патрабуе грунты стара-пладародныя і сьвежага гнойнага ўгнаеньня не пераносіць — забіваецца травамі і моцна ідзе ў лісьцё. Пад лён

вельмі надаюцца штучныя гнаі: на першым пляне паташ (калі), фосфарная кісьля і азот. Асабліва многа лён забірае з грўнту паташу, чым моцна пустошыць зямлю, бо паташ ідзе галоўным чынам на будову сьцябла лёну.

Дык вось дзеля таго, каб атрымаць найлепшы ўраджай лёну, пад лён трэба заўсёды на дзесяціну даваць: суперфасфату 16%, якіх 25-30 пуд.; калійнай солі (паташу) 20% — 10-15 пуд. і чылійскай або хоржоўскае салетры (азоту) 4-6 пуд.

У апошнія часы надта добрыя вынікі дае ўжываньне пад лён г. зв. амонавага супэрфасфату.

Апрача названых гнаёў-парашкоў пад лён заўсёды трэба даваць звычайны попел з печы, што вельмі павышае ўраджай яго; урэшце даволі часта даюць пад лён звычайную кухонную соль, асабліва карысна саліць ральлю на навінах і залежах, дзе солі даецца на дзесяціну 12-15 пуд. перад самым пасевам, а пасьля разсыпкі поля трэба добра і роўна забаранаваць, каб зьмяшаць соль з зямлёю.

Заўсёды лён пасеяны на штучных гнаёх адзначаецца дасканалым развоем, бывае гусьцейшы, раўнейшы, мае цёмна-зялёны колер, што паказывае на здаровы рост яго; галоўкі многа большыя, карэньне сільнейшае. Гэтакі лён нават амаль зусім ня церпіць ад шкодных аваднёў і не хварэе на расьлінныя хваробы.

---

Лён любіць глыбокую апрацоўку зямлі і добра рыхлую зямлю, але трэба заўсёды памятаць, што грунт да пасеву павінен мець час добра асесьці і злежацца.

Зляжалы грунт патрэбны дзеля таго, што лён тады ўсходзіць роўна, не забіваючыся травамі. Разумеецца, глыбокая апрацоўка магчыма толькі там, дзе ральля залягае даволі глыбока. Калі верхні пласт ня тоўсты, то пры глыбокай ворцы падгрунт можа быць вывернуты і гэтым самым пладародная зямля зробіцца непладародная, але дзеля таго, каб паглыбіць ворны слой зямлі і не папсаваць поля, трэба пускаць за плугам ў баразны машыну дзеля паглыбленьня грунту, які толькі разрыхляе зямлю ў самай баразьне, не выварачваючы падгрунту і недастаючы гэтак званага мёртвага слою, або як кажуць, жыўцу. Машына дзеля паглыбленьня грунту—гэта ёсьць як-бы малы плужок, або сошка, без звычайнае паліцы і сашніка, але мае двустаронны востры сашнічок. Тут трэба адзначаць, што лён на добрай зямлі, як гэта даведзена многімі досьледамі, запускае гэтак глыбока свае карэньне, як высока расьце сьцябло.

Падгатоўка зямлі пад лён не заўсёды робіцца аднолькова, гэта больш залежыць ад таго на якім мейсцы і пасьля якой расьліны лён сеецца. Поле з-пад жыта трэба пачынаць падгатаўляць яшчэ з раньняе восені, зараз-жа як толькі сжата і зьвезена будзе жыта.

Першую ворку трэба рабіць ня глыбокую, гэтак цалі на дзьве, з тым, каб паравярнуць ржышча і даць яму добра перапрэць. Пасьля пад'орыўкі ржышча — поле баранююць.

Калі пройдзе месяц-два, а стаіць добрая асеньняя пагода, трэба заараць у другі раз на поўную глыбіню і поле аставіць на зіму ў пластах, не барануючы. Калі часамі ня ўсьпяваюць даць дзьве асеньнія оркі, то даюць адну, але, як можна, глыбокую. Пры двух асеньніх орках, вясною можна задаволіцца толькі добрым і старанным баранаваньнем поля, каб разрыхліць зямлю і зьнішчыць травы. Баранаваньне паўтараецца ў меру таго, як зьяўляюцца травы, пры гэтым апошні раз баранаваць поле трэба за тыдзень-паўтара да пасеву, каб зямля ўсьпела зляжацца і асесьці. Пасьля бульбы, буракоў, морхвы ральля астаецца даволі рыхлаю і чыстаю ад траў, дзеля гэтага там можна агранічыцца адною вясенняю оркаю, незадоўга да пасеву і разумеецца, баранаваньнем.

Калі прыходзіцца абрабляць залежы, пералогі і цаліны, то падымаць плугам дзярніну трэба яшчэ з раньняе восені, застаўляючы поле ў пластах на зіму. Калі-ж дзярніна да часу вясеньняй абработкі ўсьпела перапрэць, то за тыдзень да пасеву, поле зноў трэба пераараць і, як можна, добра разбаранаваць.

Калі-ж дзярніна будзе перапрэўшай, то вясною нельга араць, бо гэтым можна папсуць ўсю працу, адвярнуўшы перапрэўшую дзярніну. У гэтым разе поле толькі баранююць — першы раз рана вясною, як толькі зямля прасохне. З паяўленьнем траваў баранаваньне паутараецца, а апошні раз баранююць за тыдзень да пасеву.

Калі ральля гэтак ці інакш падгатоўлена пад лён, прыступаюць да пасеву.

Гатункаў лёну ёсьць даволі многа. Найбольш распаўсюджаны два тыпы лёну:

*„Кудраш“, „Скочань“ або „Самасей“* — гэты тып лёну заўсёды мае склоннасьць даваць шмат бакавых атожылак, сьцябло яго расьце ня вельмі высокае, нават у добрых варунках ня вышэй аднаго мэтра. Валакно гэты лён дае далікатнае з харошым блескам, але ў меншай меры, як другія льны, затое збор насеньня льнянога дае часта надта вялікі. Пад час пасьпяваньня галоўкі насеньня гэтага лёну часта аткрываюцца самі сабою, ад чаго семя з іх выскаківае з характэрны гукам. Адсюль гэты лён і атрымаў свой назоў „Кудраш“ або „Скочань“. Кудраша найбольш сеюць на Украіне — на Дану і Херсонскай губ. на стэпах.

Другі тып лёну, гэта і ёсьць праўдзівы — *Linum usitatissimum vulgarae* — называны: „даўгунец“, „растун“, „велікалён“, „словень“ і „змлоцень“. Лён гэты мае шэраватага колеру валокны з серабрыстым блескам, галоўкі насеньня шчыльна замкнутыя разьдзеленыя на пяць перагародак, у якіх знаходзіцца дзезяць штук насеньня; сьцебель расьце даволі высокі — ад 50 да 150 цэнтымэтраў, а ня рэдка і вышэй, і дае многа валакна; кветкі яго — блакітнага колеру, а бываюць і белага, як амэрыканскага лёну. Гэты тып лёну дае насеньня ня гэтак многа, але валакно яго даўжэйшае і мацнейшае, хаця ня гэтак далікатнае, як у „Кудраша“. Да гэтага тыпу лёну адносяцца гатункі: „пскоўскага“ або „даўгунца“, „рыжскага“ і „белага галендэрскага“, якія у 1925 г. у Польшчы выдалі найбольшы ўраджай валакна і зярнят, саломы льнянай або „трэсты“ па 64 цэнтнары (384 пуд.) з дзесяціны і насеньня па 5,5 цэнт. (33 пуд.). Найбольшы ўраджай зярнят далі ў нас на Беларусі лёны: Літоўскі, Валожынскі і Петкускі: па 5,7 цэнтн. (35 пуд.) насеньня і па 3,9 - 4,2 цэнтн. (24-25 пуд.) чыстага валакна з дзесяціны.

У нас-жа, як вядома, часта сеюць лён просты. вырадзіўшыйся і нярэдка атрымліваюць 8-10 пуд, валакна з гэктару і каля 25 пудоў насеньня, тады калі добры гатунак насеньня павінен выдаваць да 40 пуд. валакна і ня менш 40 пуд. на-

сеньня з гэктару. Дзеля гэтае прычыны гаспадар на першым пляне павінен старацца завясьці ў сябе гатунак добрага і высокарослага лёну.

Сеючы звычайны просты лён, пры найвышэйшым ураджаі, і прадаючы кілёграм валакна па 2 зл. 50 гр., гаспадар атрымае з гэктару да 1000 злотых, ды яшчэ за семя, лічачы па 80 гр. кілёграм — 320 зл. А трэба ведаць, што калі валакно крыху даўжэйшае ад 60 цэнтымэтраў, ды пры добрай і правідловай арганізацыі прадажы безпасярэдня ў фабрыкі, апошнія ахвотна плацяць да 4 зл. за кілёграм валакна, значыць добрымі пасевамі і правідловаю апрацоўкаю лёну зусім ня трудна выручыць больш 2000 зл. з гэктару.

*Я. Х.*

(*Працяг будзе*).

## Аб памылках у карыстаньні мінэральнымі парашкамі.

За апошнія гады шмат хто з сялян пачаў ужываць штучнае ўгнаеньне, ці як часта сяляне называюць яго „крамны попел“.

Ня ведаючы натуры парашкоў, іх уласьцівасьцей, вымаганьняў культурнай расьлінкі ад штучнага ўгнаеньня, нашы сяляне часта робяць абмылкі пры ўжываньні штучнага ўгнаеньня, што шкодна адбіваецца на нашай гаспадарцы, бо сяляне на штучнае ўгнаеньня пасьля няўдачы глядзяць коса і на кожным кроку можна чуць— што *парашкі ня гной і яны не падыходзяць да нашай зямлі*.

Каб не наражаць гаспадару самога сябе на страты пры ўжываньні штучных парашкоў, нашаму селяніну трэба добра запамятаць наступныя правіла:

1) Штучнае ўгнаеньне дзеліцца на тры групы—азоцістыя, фосфоравыя і калійныя (паташовыя). Расьліны, што мы сеям на полі, ня ўроўнай меры патрабуюць азот, фосфар і паташ. Адны цягнуць з глыбіны больш азоту (жыта), другія больш калія (корнеплоды, бульба, лён), а трэція— фосфар.

Вось цяпер і могуць быць розныя выпадкі, ў якіх трэба разьбірацца. Напрыклад: Зямля далёка ад сядзібы, сеяцца жыта і авёс. Тут земля, напэўна можна сказаць, што высілена на азот і фосфар, значыць іх трэба ўносіць у глебу. Вось, калі мы тут будзем сеяць адно азоцістае ўгнаеньне, дык пры нястачы ў глыбе фосфару, ўраджай не паднімецца і наадварот. А гэта ў нас вельмі часта бывае. Купіць селянін пуд якоганебудзь аднаго ўгнаеньня, пасее яго на самай пустой зямле і гэта ўгнаеньне хаця і патрэбна зямлі, але пры недахопе другога, (напр. азоту), яно ня можа даць належных вынікаў, і селянін вініць тут не сябе, а парашкі.

Яшчэ прыклад. Ня раз і гной з хлева даваў адʼемныя вынікі на полі. Вывязе гаспадар вясной сьвежага гною пад бульбу і здараецца, што ў сухое лета бульбу папсуе драцяны чарвяк, між тым на суседнім шнуру, дзе гной або зусім ня клаўся, або вывазіўся загадзя — увосень ды яшчэ з надбаўкай калійнай солі, там ураджай добры. Выходзіць па пагляду нашага селяніна, што і тут вінават гной, а не яго цемра.

Ужываньне мінэральных угнаеньняў патрабуе ад нашага гаспадара веды, што могуць даць сельска-гаспадарчыя часопісі і кнігі, але наш селянін дасюль нешта ня вельмі да іх ахвотнік. А між тым мы бяз веды пляліся і будзем плясьціся ў хвасьце суседніх больш культурных народаў, наракаючы на сваю беднасьць і нэндзу, але не бачачы, што часта прычынай гэтай нэндзы ёсьць ня дрэнная наша зямля, не малазямельле, а наша гаспадарчая нядбаласьць.

Трэба ведаць, якая глеба—супесь, суглінак, падзол і што сеялася некалькі гадоў на гэтай зямлі і тады выбіраць патрэбнае ўгнаеньне.

На памылках мы будзем вучыцца і калі адзін раз гаспадар памыліўся і няправільна скарыстаў парашкі, дык ня кідаць справу, а спрабаваць далей. На пустой зямлі пры разумным ужываньні парашкі памагаюць, а на добрай памагаюць у два разы.

За межамі палявая гаспадарка дае высокія ўраджаі дзякуючы толькі ўжываньню парашкоў. Гэтаму павялічэньню ўраджаю прычынілася толькі веда. Там кожны дробны гаспадар пільна сачыць за гаспадарчымі навінамі, выпісваючы нават некалькі сельска-гаспадарчых часопісаў. Там не пачуеш, што так гаспадарыў дзед і бацька, так мушу гаспадарыць і я.

Дык, сяляне, бяром прыклад з культурных нашых суседзяў і прымемся за чытаньне сельска-гаспадарчых кніг і часапісаў самі і будзем другіх захвочваць. Гэта наш грамадзкі абавязак.

## Быдла восеньню. Хвароба горла і раціцаў.

### Пераход да зімовае пашы.

Паша на полі цягнецца восеньню яшчэ так доўга, пакуль адрастае трава. Трэба сьцерагчыся пасеньня жывёлы на перамерзлай канюшыне, дзеля таго, што гэтакая паша выклікае здуцьцё і передчаснае згубленьне ў цельных кароў.

У позьняй восені, пры кармленьні ў стайні, галоўнаю пашаю ў стайні ёсьць конскі зуб, лісьцё капусты, буракоў, рэпы, бручкі. Лісьця буракоў ня трэба даваць каровам ў вялікай колькасьці, дзеля таго, што яны маюць у сваім хімічным складзе многа кіслых соляў, якія выклікаюць ляксаўку. Павольна трэба прызвычаіваць жывёліну да сухое зімовае пашы і да буракоў, бручкі і рэпы. Пераход да гэтакай пашы не павінен быць раптоўным, асабліва для малочных кароў, дзеля таго, што пры раптоўнай зьмене пашы, тны трацяць шмат малака. Дзеля гэтага даецца такім каровам што раз меней зялёнае пашы, зьменяючы яе павольна на добрую салому, сена, і сачыстыя карняплоды.

* * *

У восені часта здараецца заразная ў кароў хвароба горла і раціцаў (капытоў). Хвароба гэтая сама ў сабе ня ёсьць гэтакая ўжо небясьпечная, былда нават па некулькіх днёх вяртаецца да здароўя, але ўсё-ж такі хворыя штукі моцна худзеюць, а далікатнейшыя з іх нават часта і гінуць. Зараза гэтая прыносіць многа шкоды гаспадаром. Тыя мясьціны, дзе яна ёсьць замыка-

юцца ўладамі і з той ваколіцы ня можна вывозіць быдла на кірмаш, дзеля чаго гаспадары маюць на гэтым шмат страты, асабліва тыя, што займаюцца выпасэм быдла для прадажы. Заразная хвароба раціцаў аб'яўляецца ў той спосаб, што на корані раціцаў паміж раціцамі і ў мызе; на губах і языку каровы выступаюць паўхіры, ў якіх ёсьць гной. Жывёла знаходзіцца ў гарачцы і траціць ахвоту да ежы. Гной ў паўхірках мутнее, потым яны трэскаюць, адтуль гной выцекае, а на мейсца паўхіркоў робяцца струпы, якія паволі гояцца і як загояцца зусім, жывёліна выздараўлівае. Жывёліне хворай на гэтую хваробу дрэнна хадзіць, дрэнна глытаць ежу, павінна дзеля гэтага гэтакая жывёліна лепей даглядацца. Як толькі гэтакая зараза зьявіцца ў суседзтве, трэба прылажыць ўсе стараньні, каб яна не магла перайсьці і заразіць здаровыя каровы. З гэтаю мэтаю, трэба пастарацца, каб здаровыя каровы не спатыкаліся з хворымі, трэба іх аддзельна пасьвіць і не на тым мейсцы, дзе пасуцца хворыя, трэба старацца, каб ў хляве была якнайбольшая чыстата. Хлеў найляпей выбяліць вапнаю. Калі няма аддзельнае пашы, дзе-б здаровыя каровы маглі пасьвіцца, найляпей трымаць іх ў хляве; а раціцы і горла кароў прамываць мешанінаю вады з крэолінам (літр крэоліну з аптэкі на 20 літраў вады).

Як толькі хвароба зьявіцца ў хляве, дык тады найляпей заразіць ўсю жывёлу адразу, каб яна перайшла зараз і не цягнулася доўгі час; з гэтаю мэтаю сліпаю хворае каровы мажацца мызы ўсіх іншых, бо ці так, ці так ўсяроўна ўсё быдла на гэтую хваробу перахварэць мусіць.

У часе хваробы трэба моцна падсьцілаць хлявы саломаю, а раціцы трэба змочваць два разы на дзень мешанінаю вады з крэолінам, (адзін літр крэоліну на 10 літраў цёплае вады) самыя мызы абмываць слабейшаю троха мешанінаю гэтых самых хімічных саставаў.

Звычайна мазь, якая ўжываецца да смаленьня дахаў і бэляк і дзёгаць гэтак сама ёсьць добрым лякарствам.

Дзёгцям мажацца досыць груба хворае мейсца на раціцах, ад чаго паўхіркі хутка гояцца.

Пашу трэба даваць лёгкую да траўленьня, у выпадку пашы грубейшае не пашкодзіць дадаць да пашы гляўбэрскае солі (жменю на дзьве каровы). Чым будзе большая рупліваська і чыстасьць каля быдла, тым хутчэй хвароба пройдзе і тым меншыя з яе будуць шкоды.

*Rolnik Wzorowy.*

---

## Катар жывата і кішак у жывёлы.

Катар жывата і кішак часта зьяўляецца ў нашых дамовых жывёлаў раптоўна і потым, калі гаспадар на прымецца на першых парах за лячэньне, можа перайсьці ў хранічную форму. Зьяўляецца гэта хвароба ад кармленьня скаціны гнілым кормам, гнілымі буракамі, бульбай, ці іншымі сапсаванымі земляплодамі. Таксама зьяўляецца катар ад прастуды, гарачыні, ад вельмі сьцюдзёнага, ці гарачага пойла і нарэшце—ад доўгай і цяжкай працы.

Хворы конь, ці зусім ня есьць, ці есьць мала, зявае, язык у яго белы, калу аддае або мала і ён сухі, бліскучы, то пачынае гнаць, у жываце бурчэць. Хворая карова на катар жывата і кішак таксама ня есьць і найчасьцей ляжыць, падвярнуўшы ногі пад жывот; у роце заўсёды многа сьліны, а жвачкі ня жуе. У жываце хворай каровы як быццам штосьці пераліваецца, затрыманьне чарадуецца з ляксай (паносам), адрыгаецца газамі, каровы даюць у два разы менш малака. Хвароба трывае дзён 7 — 8, калі пачаць лячыць яе адразу. Задаўнены катар можа цягнуцца доўга і хворая скаціна худзее і робіцца нягоднай да працы.

Хворую скаціну трэба паставіць у сухі, цёплы хлеў і пастарацца ачысьціць ёй жывот. Гэта робіцца ў наступны спосаб:

*Для каня.* Бярэцца паўтары кварты вады, ўсыпаецца туды жменя ільнянога семя, заварваецца яно, юшка працэджываецца ў бутэльку, ўсыпаецца каля фунта глаўбэрскай солі і ўліваецца каню ў горла.

*Для каровы.* Бярэцца паўтары кварты вады, ўсыпаецца жменя ільнянога семя, заварваюць яго, юшку пераценджываюць у бутэльку, ўсыпаюць туды каля 2-х фунтаў глаўбэрскай солі і каля 3-х лотаў альвасу і адразу ўліваецца хворай карове ў горла.

Апрача гэтага хворай жывёле карысна даваць часта, але па трохі добры мяккі корм: сухое мяккае мурожанае сена, цёплае пойла з мукі ці вотрубей. Пры ляксах у коней ці кароў, трэба ўзяць кварту вады, ўсыпаць да яе са жменю ільнянога семя, заварыць і юшку перацадзіць у бутэльку, куды яшчэ трэба ўсыпаць якія небудзь 2 лоты галуну і 2 лоты дробна патаўчонай дубовай кары і ўліць усё ў горла жывёле.

Падкрэсьльваецца, што гэтыя меры заўсёды даюць лепшыя вынікі пры пачатку хваробы. Задаўнены катар жывата і кішак жывёлы трудней падаецца лячэньню, а часамі можа перайсьці ў хронічную форму, што выклікае страту прадукцыйнай працы жывёлы.

*Н. С.*

---

## Як каваць коней.

Па вёсках і малых сялянскіх гаспадарках каваць коней прыходзіцца ці самаму гаспадару, ці весьці іх да кавалёў, якія часта нічога не разумеюць у гэтым дзеле, дзеля чаго бываюць выпадкі, што каваньнем мы калечым каня на некаторы час, а то і на ўсё жыцьцё.

Само сабой ведама, што каня куюць, каб ён мог працаваць на цьвёрдым і сьлізкім грунце. Але, каб асьцерагчы каня ад нешчасьлівых здарэньняў пры каваньні, трэба каваць ўмеючы, трэба пільна сачыць, каб капыта не псавалася.

Гаспадар, які вядзе свайго каня да каваля, ці сам яго куе, перш-на-перш мусіць зьвярнуць увагу на падкову. Тут трэба памятаць, што не капыта мусіць быць датарнавана да падковы, але падкова да капыта. Калі падкова будзе добра выкавана, дык яна дае добрую апору капыту, а калі падкова неадпаведна зроблена і падагнана пад капыта, дык яна можа скалечыць нагу і зрабіць каня непрацаздольным на некаторы час а і на ўсё жыцьцё. Усякая падкова павінна быць гладка выкавана і так, каб па вялічыне і форме была такая, як край падошвы капыта. Падкова мусіць быць з бухтаўкай і павінна закрываць

край падошвы капыта ад аднэй пяты да другой. Шырокімі і цяжкімі падковамі каваць ня можна, бо паміж капытам і падковай будзе набівацца гразь і капыт будзе гніць, а калі падкаваць каня цяжкай падковай, дык ён хутка зморыцца і ня будзе магчы працаваць. Каб падкова была не цяжкая, дык трэба, каб вагай была прыблізна $1^1/_2$-2 фунты. Ня можна каваць такімі падковамі, якія шмат выдаюцца ўперад, узад, ці на баку, бо конь будзе наступаць, будзе валяцца і можа пакалечыць сабе ногі; ня можна каваць каня і вузкімі падковамі, меншымі за капыт, бо і ад гэтага коні часта хварэюць.

Перад тым як прыбіваць падкову, трэба добра аглядзець капыт і разчысьціць яго. Калі толькі на падошве капыта ёсьць шчэліны і ў іх набілася гразь і калі барозны каля стрэлкі глыбокія, дык трэба ўвесь гэты лішні рог абрэзаць, выраўняць падошву і край капыта, але пры гэтым трэба сачыць, каб з усіх бакоў рогу зрэзана было пароўну.
Пасьля такой расчысткі, падкова павінна прыставаць да капыта так, каб ня было ніякай шчалінкі паміж падковай і краем капыта, бо туды будзе набірацца гразь, камянчыкі і конь будзе кульгаць. Цьвякі трэба ўганяць у белую паласу, што відаць на расчышчаным капыце (падошве). Цьвек павінен быць так загнаны, каб не пакалечыць косьці, бо там будзе зьбірацца матэрыя і конь пачне кульгаць. Цьвякоў ня можна заганяць у пяты і блізка пят.

Вось простыя і практычныя спосабы каваньня коней на вёсцы, якія часта могуць засьцерагчы нашага каня—галоўнага працоўніка ў нашай гаспадарцы ад страты тымчасовай а то і сталай працаздольнасьці. *S.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Што рабіць пчаляру ў кастрычніку.

У кастрычніку ўжо надходзіць пара значных халадоў і нават начных замаразкаў. Калі-ніколі толькі здараюцца цёплыя сонечныя дні, але і па такіх днёх заўсёды наступае ноччу мароз. У гэты іменна час пчаляр павінен падумаць аб тым: ці ў парадку ўсё на яго пасецы, ці няма часамі ў яго пчол галодных, не дагледжаных добра і г. д. Каб сканстатаваць ўсё вышэйшае трэба акурат карыстацца з тых цёплых днёў, якія здараюцца ў гэтым месяцы.

У гэтыя пагодныя дні нават яшчэ пчолы вылятаюць у поле, каб пажывіцца троха нэктарам і пяргою з некатарых красак, як прыкладам з верасу. Пры гэтым кастрычнікавым вылеце многа пчол згіне ў полі асабліва старых і слабых. Аднакжа пчаляр нячога амаль ня страціць на гэтым, дзеля таго, што згінуць тут толькі пчолкі старыя, якія-б і бяз гэтага не дачакаліся-б вясны і згінулі-б у часе зімкі.

Уся праца пчаляра ў гэтым месяцы ёсьць ў тым, каб пчолы прыгатовіць да зімоўкі. Гэта вымагае вялікай руплівасьці і ўвагі ад пчаляра; памятайма, што ад гэтага агляду і прыгатаваньня пчолак на зіму залежыць усё на год наступны, асабліва ясна гэта акажацца на вясну.

Каб адкінуць усе гэтыя марныя, прыкрыя вынікі на вясну, а атрымаць толькі вынікі добрыя; абавязкова трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на прыгатаваньне пчолак да зімоўкі. Прыгатаваньне гэта павінна адказваць гэтакім вымогам: а) пчолкам павінен быць запэўняны *спакой*, в) цяпло, с) дастатак ежы.

Как запэўніць пчолам цяпло, дзеля гэтаге трэба пастарацца памясьціць усе вульлі з пчолкамі ў месцы спакойным і ціхім, паложаным здалёка ад дарогі, ад забудаваньняў і ад мейсцаў дзе ходзяць сабакі, сьвіньні і другія жывёліны.

Спакой для пчол пад час зімаваньня зьяўляецца абавязковым, дзеля таго што калі хто будзе нарушаць спакой пчол, дык яны заўсёды ад гэтага будуць есьці надта многа мёду і ім нават можа і не хапіць ежы на ўсю зіму, да гэтага пчолы ядучы з ахвотаю многа мёду могуць захварэць на лявсаўку і адмерці, ў дадатку калі мы будзем у пабліжы пасекі рубаць дрова, альбо рабіць са стукам якую колечы другую работу, дык ад стуку пчолы разпаўзуцца з зімовага клубка і могуць усе згінуць ад марозу.

Спакой для пчол трэба яшчэ забясьпечыць і ў тым сэнсе, што на лятки вульлёў не павінны сьвяціць сонячныя праменьні, бо ад праменяў слонца гэтак сама пчолы разпаўзаюцца з зімовага клубка, нават часамі вылятаюць і на двор, думаючы што на дварэ ўжо цёпла і ад гэтага масамі гінуць. Каб закрыць пчолак ад слонца стаўляем вульлі ляткамі на поўнач. Гэтак сама павінны быць пчолы забясьпечаны і перад халоднымі ветрамі, маючы на супраць ляткоў якое колечы забудаваньне, ці кусты саду.

Здараецца дужа часта, што мышы ўлазяць зімою ў вульлі пчолак і зьядаюць там мёд, асуджваючы гэтым вулей на пэўную сьмерць, каб збавіць пчолак ад гэтай небясьпекі, трэба лятки больш шырокія перагарадзіць ў палавіне дротам падоўжна, ад гэтага дроту мышы не палезуць у вулей.

Нават і ў гэтым месяцы, падчас цёплых дзён могуць яшчэ здарацца рабункі, трэба прылажыць усе стараньні, каб збавіць тыя нападаемыя вульлі ад рабунку, да гэтага трэба пераглядзіць слабейшыя вульлі і пераканацца, ці часамі ў іх не бракуе мёду, калі так, дык трэба пастарацца пчолак падкарміць даючы ім на падмогу цёплае мядовае сыты. Трэба перагледзіць гэтак сама ў нутры вульля на дне, ці няма часамі там сьмяцьця; калі такое акажацца, трэба пастарацца гэтае сьмяцьцё вымясьці—бо ў іншым выпадку ў гэтым сьмяцьці можа завясьціся вільгаць, а ў вільгаці зноўжа могуць разводзіцца рожныя паразіты і бактэрыі рожных заразных і згубных для пчол хвароб. Па вымяценьні трэба заслаць дно ў вульлі мягкім войлакам, ці зноўжа гладкім кардонам, перасаляным алеем, ці зноўжа пакостам, засьцілаем ў такі спосаб, каб не засланіць гэтаю ўкладкаю ніжняга лятка. Каб ляпей ухараніць вулей ад вільгаці можна па войлаку, ці па кардоне пасыпаць сухое сечкі, ці саломы. Укладка гэтая на дне яшчэ карысная і ў тым сэнсе, што на вясну надта лёгка ачышчаць вулей ад сьмяцьця — трэба толькі выняць гэтую ўкладку, з ею разам вымяцца і ўсё сьмяцьцё.

На зіму вульлі альбо застаўляем на самай пасецы, добра іх перад гэтым аглядзеўшы і забезпечыўшы ім гэтакім чынам цяпло, альбо зноўжа можна пчолы ўмясьціць нават ў амшаніках выбудаваных добра і цёпла, альбо зноўжа ў мей-

сцах пясчыстых і сухіх можна выкапаць яму давольнае вялічыні і аблажыўшы яе па бакох саломаю, умясьціць там вульлі. Ад гэтага пчолы будуць мець добры спакой і будуць спажываць мала мёду. Ува ўсіх вульлёх трэба зьменшыць ляткі, каб гэтым даць пчолкам магчымасьці мець заўсёды ў вульлі цёплае і сьвежае паветра.

Найляпей, разумеецца, зімуюць пчолы ў вульлёх саламяных, дзеля таго, што гэтыя вульлі надта цёплыя, чыстыя і сухія; апрача гэтага ў такіх вульлёх для пчол заўсёды запэўнены даплыў сьвежага паветра, якое дастаецца павольна паміж саломай. Паветра гэтае ніколі не будзе зімнае, дзеля таго, што гэтае паветра пакуль працісьнецца надта паволі цераз сьценку вульля, дык зусім абагрэецца і прыме такую тэмпэратуру, якая ёсьць у вульлі.

Аканчальна ў гэтым месяцы аглядаем вульлі на зіму ня толькі з вонкаў, але і ўнутры; абстаўляючы там іх саламянымі матамі, падушкамі і саломаю, а то з бакоў ад сьценак, з нізу, з верху і адусюль. Сена на агледжаньне вульля ўнутры не надаецца ў ніякім выпадку, дзеля таго, што яно плясьнее і затрымоўвае вільгаць, прычыняючы гэтым пчолкам вялікую шкоду. Найляпей надаецца да гэтага салома аўсяная ці зноўжа ячменная, разумеецца без травы; тымчасам як з жытняе добра надта рабіць маты і падушкі, перад гэтым ачысьціўшы яе ад пер'яў на шчотках, зробляных з цьвякоў. Што да запасаў ежы для пчол на зіму, то аб гэтым пчаляр павінен памятаваць кожную хвіліну. Трэба памятаваць, што сапраўднае забясьпячэньне пчолак ежаю адбываецца ў канцы верасьня. але і праз увесь кастрычнік трэба яшчэ памятаваць аб гэтым, асабліва аб тых вульлёх, якія ў верасьні мелі чарву. На вывядзеньне гэтае чарвы пчолы страцілі шмат мёду і ім можа на зіму засталася нязначная яго колькасьць; трэба дзеля гэтага падкарміць такія вульлі, іначай малая надзея на іх перазімаваньне, бо такія пчолы могуць згінуць ад голаду.

Прыгатаваўшы гэтакім чынам пасеку на зіму, можна падумаць і аб прыладах г. зн. трэба пастарацца захаваць так на другі год, каб яны не папрападалі, не пагнілі і не паржавелі. З гэтаю мэтаю ўсе пчалярскія прылады, як дзеравянныя, гэтак сама і жалезныя, трэба чысьценька вымыць гарачаю вадою, паабціраць, прасушыць і злажыць ў пэўнае сухое мейсца.

У месяцы кастрычніку стараемся засадзіць мёдадайныя кусты і дрэвы ў пабліжу нашае пасекі, намаўляючы да гэтага і ўсіх сваіх суседзяў, бо дрэвы засаджаныя восеньню лепш і хутчэй прыймаюцца дый палівацьіх ня трэба. З гэтакіх дрэваў найлепшаю для пчол будзе *ліпа*.

*Пчаляр.*

## Дзе Паншчына?

Нашы радыкалы з „Рэха Працы", якія па сваей ідэалёгіі зусім нічым ня розьняцца ад камуністаў, таксама як і іх духоўныя бацькі, маюць заўсёды дзьве меркі, для ацэнкі рожных палітычных, гаспадарскіх і эканамічных зьявішч, залежна ад таго, дзе гэтыя зьявішчы маюць мейсца. Калі яно мае мейсца ў Саветах — мерыцца адной меркай, калі дзе небудзь у буржуазнай дзяржаве, а асабліва ў Польшчы — мерка зусім іншая. Калі засадзяць за што небудзь у вастрог якога небудзь селяніна ў Саветах — гэта паводле „Рэха Працы", ёсьць справядлівы суд над ворагам пралетарыяту. А калі за тое самае пападзе ў вастрог які небудзь селянін у Польшчы, гэта — расправа над працоўным. Калі павялічваюць сваю армію Саветы, гэта паводлуг „Рэха Працы" ёсьць пацыфізм; а калі тое сабае робіць якая небудзь іншая дзяржава — гэта мілітарызм.

Калі зьмяншаюць заработную плату работніку на савецкіх фабрыках — гэта, паводлуг „Рэха Працы" рацыянальная разьвязка эканамічнага пытаньня па духу пралетарскага будаўніцтва; а калі гэтае самае зьявішча мае мейсца ў іншай дзяржаве — гэта ёсьць эксплёатацыя пролетарыяту. Гэтакіх прыкладаў можна было-б прывесьці без канца.

Усюды ў іх мы маем малюнкі готэнтоцкай моралі, якая кажа: „Калі я зьем яго жонку—дык гэта — добра, а калі ён маю, дык гэта — блага". Толькі дзякуючы таму, што гэная готэнтоцкая мораль зьвіла сабе моцнае гнязьдо ў рэдакцыі „Рэха Працы" і можам сабе вытлумачыць паяўленьне у адным з апошніх несканфіскаваных яе нумароў зацемку пад загалоўкам: „Умястоўскі завёў Паншчыну".

„Паншчына" палягаць мае на тым, што Умястоўскі звольніў ад працы М. Косьцевіча і ня даў яму адшкадаваньня за тры месяцы.

Ня думаем, каб справа, чаму М. Косьцевіч быў звольнены Ф. Умястоўскім ад працы бяз трохмесячнага адшкадаваньня, мела які-небудзь грамадзкі характар і дзеля гэтага пісаць аб прычынах ня будзем, але можам сказаць, што ў гэтай буржуазнай Польшчы, якую камуністыя маюць на мэце сьцёрці з твару зямлі, М. Косьцевіч мае магчымасьць у парадку закону дашуквацца на Умястоўскім свае крыўды, калі ён лічыць сябе пакрыўджаным.

Але якое маральнае права ўступацца за пакрыўджанага, паводле яе думкі, газэтнага работніка, мае „Рэха Працы", гэткая газэціна, дзе работнікі яе нават жаліцца за крыўду ня маюць на каго, бо выдаўцы іхнія і рэдактары, гэта падстаўныя асобы, якія ў прыпадку якога небудзь канфлікту з законамі буржуазнай Польшчы зьнікаюць, як сонная мара. Якое маральнае права маюць маладцы з „Рэха Працы" казаць аб „паншчыне" Умястоўскага, калі сваіх працаўнікоў эксплёатуюць да апошніх межаў магчымасьці і калі працаўнікі іхнія і ў думцы ніколі ня бачылі гэткай высокай аплаты, за такую невялікую працу, якую меў пан М, Косьцевіч у „Беларускім Дні".

Якое маральнае права маюць яны? Сапраўды, сьмяхотнае пытаньне...

Ці-ж можна вясьці гутаркі аб моралі з людзьмі, якія зьяўляюцца старонкікамі готэнтоцкай этыкі. Бо тая эксплёатацыя газэтных работнікаў, якая мае мейсца ў газ. „Рэха Працы", гэтае безнадзейнае становішча, калі сваіх сапраўдных крыўд няма нават перад кім і дашуквацца, паводле іх готэнтоцкай меркі ёсьць нішто іншае, як толькі рацыянальнае вырашэньне эканамічнага пытаньня ў духу савецкага будаўніцтва.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Студэнская вечарына.

Дня 22 верасьня ў салі Віленскай Беларускай Гімназіі адбылася вечарына на карысьць Беларускага Студэнскага Саюзу У. С. Б. у Вільні.

На праграму вечарыны зложыліся: драматычны абразок у 3-х актах Ул. Гутоўскага „Сурдут і Сярмяга“, дэклямацыі, хор і ўрэшце скокі пад гукі духавога аркестру.

Ня трэба казаць, што беларускае грамадзянства ў Вільні адгукнулася на покліч нашае моладзі і перапоўніла амаль па берагі невялічкую салю Гімназіі. Дый ня толькі беларускае грамадзянства. Бачылі мы на салі сэнатара Абрамовіча, грам. Выслауха і іншых прадстаўнікаў польскага грамадзянства, а таксама і прадстаўнікоў Віленскага Ваяводзтва.

Адным словам відаць, што Беларускі Студэнскі Саюз, здабыў сабе прыхільнасьць шырокіх колаў усяго мясцовага грамадзянства.

Кажучы аб драматычным абразку „Сурдут і Сярмяга“ хочам адзначыць зусім добрую йгру А. Чайкава ў ролі Янкі Пыхалы. Добры быў А. Лобан у ролі Мацея, брата Янкі і Э. Залкінд — у ролі яго жонкі, Магды.

У самай пастаноўцы абразка было шмат недахопаў. Трупе аматараў можна шмат даравацъ, і да ацэнкі іх ігры і пастаноўкі ня можна падыходзіць з той меркай, як да йгры мастакоў-прафэсіяналаў. Дзеля гэтага аб дробных недахопах казаць ня будзем. Але ня можам нават аматарам даравацъ гэткай рэчы, як прысутнасьць фарсістых жоўтых боцікаў у простай сялянкі Магды—жонкі Рыгора,дзякуючы каторым, заместа тыпу сялянскай кабеціны мы бачылі нейкую мешаніну нэгра з кітайцам.

Наагул уся пастаноўка „Сурдута і Сярмягі“ рабіла ўражаньне чагосьці недаробленага, недакончанага, неапрацаванага.

У аддзеле дэклямацыі добрымі былі дэклямацыі Я. Хвораста і Г. Шутавічанкі.

Хор быў зусім добры і сабраў шмат зусім заслужаных воплескаў.

Аб скоках на студэнскай вечарыне, ведама, няма чаго і казаць — скакалі пад гукі духавога аркестру да раніцы, аж пыл курэў.

У канцы свае зацемкі хачу зьвярнуць увагу арганізатараў, што ў нашых варунках, кожная вечарынка беларуская зьяўляецца прэзэнтацыяй мастацкіх сілаў віленскага беларускага грамадзянства, трэба зьвярнуць больш увагі на гэткія выступленьні, трэба больш ўкладаць працы на іх арганізацыю, а нават, калі трэба, і грошаў. Мы пераканаты, што пры гэтых варунках прэзэнтацыя гэтая на наступнай вечарыне студэнтаў беларусаў выпадзе куды ляпей, бо гэтыя сілы ёсьць, іх толькі трэба склікнуць і пхнуць да працы.

### З Радашкоўскай Беларускай Школы.

У Радашкоўскай Беларускай Школе ім. Францішка Скарыны з праграмай 5-ці клясаў Гімназіі заняткі пачаліся.

Новыя вучні прыймаюцца ва ўсе клясы. Ёсьць спадзея, што праграма будзе расшырана да 6-ёх клясаў Гімназіі.

### З Беларускага Студэнскага Саюзу.

У суботу 6.X.28 г. у памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры адбыўся рэфэрат. Рэфэрат прачытаў кал. Вялецкі на тэму „Патрэбы працы беларускай моладзі“. Прысутных было шмат.

### „Студэнская Думка“.

У найбліжэйшых днях выйдзе з друку чародны нумар органу Беларускага Студэнскага Саюзу „Студэнская Думка“. Зьмест прадбачыцца багаты і цікавы.

# Апошнія навіны.

**Француска-ангельскі марскі дагавор.** Шмат шуму на сьвеце нарабіў апошнімі часамі марскі дагавор Францыі з Англіяй. У гэтым годзе дайшло між Францыяй і Англіяй да паразуменьня ў справе марскога ўзбраеньня. Як падалі газэты, дагавор гэты меў быць скіраваны проціў Амэрыкі, бо ён пазваляе пабудаваць такую колькасьць марскіх караблёў Англіі, што Амэрыцы магла-б з боку Англіі на выпадак вайны пагражаць небясьпека.

Наагул быў гэта дагавор тайны, так што тое, што ён быў скіраваны проціў Амерыкі, было звычайным домыслам. Урады француcкі і ангельскі паслалі амэрыканскаму і японскаму ўрадам акты, дзе быў абгавораны ў агульных нарысах француска - ангельскі дагавор.

Японскі ўрад нават прыхільна аднёсься да новага трактату. Тымчасам у Амэрыцы, не вядома да гэтай пары якім спосабам, удалося аднэй газэце дастаць тайную інструкцыю высланую францускім міністэрствам заграничных справаў свайму прадстаўніку ў Амэрыцы.

Апублікаваньне тайнае інструкцыі выклікала вялікі перапалох. Амэрыка па гэтым факце выступіла рашуча проціў ангельска-француcкага марскога дагавору і заявіла, што прыступае да будовы новых бранеcносцаў. Такім чынам з дагавору аб разбраеньні вышла агульнае ўзбраеньне.

**Францыя.** Урад француcкі прадставіў парлямэнту праект буджэту. Вялікае ажыўленьне зрабіла прапазыцыя ўраду зацьверджаньня 4 каталіцкіх кляштараў і пазваленьне вясьці ім працу. Як ведама, у Францыі праведзены разьдзел касьцёла ад дзяржавы, таму прыхільныя адносіны ўраду да касьцёла ўзварушылі француcкіх вальнадумцаў і масонаў.

**Англія.** Адбыўся нядаўна кангрэс ангельскай рабочай партыі. Кангрэс рашучай большасьцяй пастанавіў не навязываць адносін з камуністымі да тае пары пакуль III інтэрнацыянал будзе ўмешвацца ў унутранныя справы паасобных дзяржаваў.

**Амэрыка.** У Амэрыцы арыштаваны высланнікі III інтэрнацыянала, якія вялі дэструкцыйную работу сярод амэрыканскіх работнікаў.

Па гэтаму поваду прэзыдэнт Кулідж заявіў, што пакуль Расея будзе ўмешвацца ў унутранныя справы Амэрыкі, даючы грошы на ўсялякія антыдзяржаўныя пачынаньні, да тае пары Амэрыка не наладзіць адносін з Расеяй.

**Выбары новага прэзыдэнта.** Прадвыбарная агітацыя прыняла гарачае тэмпо. Абодва кандыдаты Сміс і Гувэр аб'яжджаюць Амэрыку і выступаюць з сваімі кандыдацкімі прамовамі. На адным з мітынгаў кандыдата дэмакратычнае партыі Сміса слухала 150 тысяч народу.

**С.С.С.Р.** Антаганізм між Рыкавым а Сталіным прыймае што раз большыя разьмеры. Між іншым Рыкаў меў зьвярнуцца да сасланага Троцкага з прапазыцыяй, каб той выракся сваіх апазыцыйных тэзаў і абняў становішча камісара вайны, на месца Варашылава, які ёсьць бязвольным інструмэнтам у руках Сталіна. Троцкі аднак рашуча адмовіўся ад гэтай прапазыцыі.

**Паварот „Красіна“.** Ледакол Красін, які адыграў выбітную ролю ў ратаваньні разбіткаў Нобіле, трыўмфальна вярнуўся ў Ленінград.

**Польшча. Працэс мар'явітаў у Плоцку.** У Плоцку адбываецца ўжо другі тыдзень працэс павадыра сэкты мар'явітаў арцыбіскупа Кавальскага. Кавальскі абвінавачваецца ў немаральных паступках, якіх дапускаўся ў адносінах з законніцамі. Польская клерыкальная прэса з прычыны гэтага працэсу разьвяла страшэнную дэмагогію і ўжо перад прысудам дамагаецца скасаваньня сэкты мар'явітаў. Адносіцца ўражэньне, што працэс наагул раздуты. Ведама, не бяз віны быў арцыбіскуп Кавальскі.

**Нямеччына. Скандал у Бэрліне.** 6 кастрычніка ў бэрлінскай радіо-станцыі меўся адбыцца рэфэрат рэдактара органу соцыял-дэмакратаў Шварца на тэму „Аб забясьпечэньні міру“.

Незадўга перад рэфэратам да рэдактара Шварца нехта затэлефанаваў і сказаў, што па яго пасланы самаход, каб адвезьці на радыё-станцыю. Рэдактар Шварц сеў і паехаў. Аднак людзі, якія знаходзіліся ў самаходзе вывязьлі Шварца на далёкае прадмесьце Бэрліна і там заявілі яму, што яны камуністыя і сумысьля яго вывезьлі, а замест яго будзе мець прамову камуніст процій будовы новага бранепосца.

Тымчасам камуністычны пасол Шульц, які падаўся за рэдактара Шварца меў у радіо вялікую агітацыйную прамову. У часе калі пасол-камуністы гаварыў, іншыя камуністыя з Бэрліна, што-некалькі мінут тэлефанавалі да кіраўніка радіо-станцыі, каб той ня мог сьлядзіць за тым, хто і аб чым гаворыць.

Пасьля сваей прамовы камуністы Шульц выявіў сваю фамілію і заявіў, што таму ўжыў ашуканства, бо ўсе палітычныя партыі могуць карыстацца радыям, а толькі камуністым нельга.

На другі дзень другі рэдактар Шифф сустрэў у падзямельнай чугунцы камуністычнага пасла Шульца і кінуўся на яго. Прысутныя ледзь здолелі іх разбараніць.

Газэты падаюць, што пасол Шульц мае падаць рэдактара Шыффа ў суд за напад.

## Лякарскія парады.

### Грыпа (інфлюэнцыя, гішпанка).

Хвароба дужа распаўсюджаная, заразная. Вызываецца нязнанымі яшчэ з пэўнасьцю бактэрыямі. Перадаецца ад хворага на здаровага найчасьцей праз кулькі сьліны вылятаючай з роту, ці носу падчас кашлю, чыханьня, смарканьня, або ажыўленай гаворкі. Спусьця 2-3 дні пасьля заражэньня, чалавек адчувае боль, ламаніну, найчасьцей ува лбе, у крыжавіне, нагах і руках; пачынае кашляць, зьяўляецца катар носа, вочы сьлязяцца, жара павышаецца да 38-40 град.

Такі стан цягнецца ад 3—7 дзён, пасьля жара паніжаецца і самапачуцьцё хворага становіцца добрым.

У некаторых выпадках хворы на грыпу хоць і кепска чуецца, але можа трымцца на нагах і не адрываецца ад сваіх заняткаў (перамагае хваробу) і як раз у такіх выпадках, дзякуючы таму, што не захаваўся, як належыцца пры хваробе (не лягжаў у ложку), лёгкая грыпа дае цяжкія камплікацыі (пасьледкі): яна можа абрушыцца на мазгі, почкі, лёгкія, даючы запаленьні, або, калі хто мае мае скрытыя сухоты, то яны пераходзяць у вострую хворму.

Каб усьцерагчыся ад такіх небясьпечных пасьледкаў, трэба, пры ўсялякай, нават, найлягчэйшай форме грыпы, лажыцца ў ложак і праз 4-5 дзён абсалютна з яго не ўставаць.



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3